Жыве Беларусь!

# Пагоня

Грамадзка-палітычная газэта

Заснавана ў 1920 г.

№ 10 23 кастрычніка — 5 лістапада 1992 г. Кошт 1 рубель

# НЕЛЬГА ЭКАНОМІЦЬ НА СВАЁЙ БУДУЧЫНІ



«Нас на плошчу прывяла крыўда. Крыўда абманутых у які раз, крыўда загнаных у кут».

Гэтыя словы прагучалі на мітынгу, які адбыўся ў Горадні на плошчы Леніна 19 кастрычніка. Па рашэньню гаркама прафсаюза работнікаў народнай адукацыі педагогі горада сабраліся, каб прыцягнуць увагу народных дэпутатаў усіх узроўняў, увагу сродкаў масавай інфармацыі, нарэшце ўвагу жыхароў вабласнога цэнтра да сваіх праблемаў.

Катастрафічны стан народнай адукацыі рэспублікі — ужо відавочная зьява. Са школ, з вучэльняў пачаўся масавы адыход пэдагагічных кадраў, ідзе «вымываньне» элітнага пласта вышэйшай і сярэдне-спэцыяльнай школы, назіраецца рэзкі спад інтэлекту ў грамадзтве. Заработная плата настаўніка вышэйшай катэгорыі пры ўмове яе падвышэньня, якое паабяцаў урад, будзе складаць 4426 рублёў, а памочнікам выхавацеляў дзіцячых садкоў прапанавалі 1700 рублёў. Стрэсавы стан — гэта натуральны стан людзей, якія працуюць у галіне адукацыі. Пэдагогі бадай у самай большай ступені аказаліся ў становішчы сацыяльнай безабароненасьці.

— Сёньняшняе становішча ў Горадні проста жахлівае,— гаворыць старшыня гаркама прафсаюза работнікаў народнай адукацыі Данута Казіміраўна Макей.— У горадзе 7 тысяч лішніх школьнікаў. 5 школ працуюць у тры зьмены. А ўмовы, у якіх працуюць настаўнікі! У сярэдняй школе № 33 на ўроку ў клясе тэмпература была +8С. Ад нас патрабуюць высокага ўзроўню выкладаньня, але няма каму забясьпечыць нас неабходнымі падручнікамі, мэтадычнымі дапаможнікамі. Для маладога настаўніка пакой у інтэрнаце каштуе 923 рублі пры месячным заробку каля 2 тысяч рублёў. Урэшце рэшт, прафэсійны абавязак кожнага настаўніка — быць добра апранутым, але за тыя грошы, што мы атрымліваем, можна толькі што не памерці з голаду.

Кожны, хто падыходзіў у гэты дзень да мікрафону, казаў блізкія ўсім прысутным, такія набалелыя словы праўды. Настаўнікі ўсё жыцьцё падтрымлівалі кагосьці, тлумачылі нечыя ідэі, а сёньня іх не падтрымлівае ніхто. Яны засталіся сам-насам зь нікому ўжо непатрэбнымі несправўджанымі ідэямі і з пустымі кішэнямі. У школах працуюць толькі энтузіясты. Як заўважыў адзін прамоўца, мітынгоўцам трэба трымаць у руках не транспаранты, а фотаздымкі тых мужчын, якія сёньняшнім днём адважваюцца ісьці ў школу. Жабрацкае становішча прымушае думаць толькі аб фізічным існаваньні. Навошта ж тады зьдзіўляцца агульнай дэградацыі, росту злачынстваў, зьяўленьню культа жорсткасьці і амаральнасьці. Астаткавы прынцып фінансаваньня адукацыі — гэта астаткавы прынцып адносін да сваіх дзяцей, унукаў. Да сваёй будучыні. Ці ня гэтым адплоціць прышласьць праз пэўны час?

Раніцаю 19 кастрычніка былы міністр адукацыі Беларусі Дзямчук, выступаючы па рэспубліканскім радыё, заклікаў да спакою і стрыманасьці. Сярод мітынгоўцаў я ўбачыў плякат з надпісам «Міністру — зарплату настаўніка!»...

Удзельнікамі мітынгу была прынята рэзалюцыя, у якой выказаўся недавер Вярхоўнаму Савету, Савету Міністраў, Дзяржкамітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва РБ як не здольным абараніць правы рабонікаў народнай адукацыі і патрабаваньне зьмяшчэньня з пасады старшыні гэтага камітэта спадара Бадзея. Была выказана прапанова народным дэпутатам на чарговай сэсіі не пазьней 1 лістапада разгледзець процівапраўныя дзеяньні ўрада і вырашыць пытаньне аб увядзеньні артыкула 34 п. 7 Закона аб адукацыі з 1 верасьня. А мясцовым уладам прапанавана тэрмінова вырашыць пытаньне аб павелічэньні сацыяльных выплат са 150 рублёў да 20% ад службовых акладаў і ставак і забясьпечыць выкананьне рашэньня сэсіі гарсавета ад 3 кастрычніка 1991 года. У выпадку невыкананьня патрабаваньняў мітынг прапанаваў з 1 лістапада гэтага года аб 'явіць перадзабастовачны стан і правесьці папераджальную забастоўку.

Дарэчы, нікога зь мясцовага кіраўніцтва і народнага дэпутацтва на плошчы ня было.

— У нашых школах ужо даўно ідзе ціхая і тайная забастоўка,— сказаў настаўнік адной са школ горада.— Мы не даем нашым вучням таго, што павінны ім даць, бо ў нас саміх ужо няма нічога — ні падтрымкі, ні веры, ні надзеі.

Дзяржава, урад адмовіліся ад тых, хто павінен быць галоўным архітэктарам грамадзтва, хто павінен стаць самым надзейным гарантам заўтрашняга росквіту і дабрабыту. Павінен. Але ў кожнага чалавека ёсьць пачуцьцё гонару, чалавечае годнасьці. І калі цябе не паважае дзяржава, то застаецца толькі самому паважаць сябе. Першым крокам на гэтым шляху стаў мітынг 19 кастрычніка. Ціхая й тайная забастоўка можа перарасьці ў вялікую і яўную, вынікі якой прадказаць ой як цяжка, бо прыйдзецца падлічваць ня толькі страчаныя грошы.

У. І. Ленін некалі пісаў: «У нас настаўнік павінен быць падняты на такую вышыню, на якой ён не стаяў, не стаіць і ня будзе стаяць». І можа сімвалічна, што мітынг адбыўся ля яго помніка, бо збанкрутаваная сістэма, якую нарадзіў ягоны розум, прывяла да таго, што ў нашым небуржуазным грамадзтве настаўнік падняты на вышыню мітынговых плошчаў, дзе адпаведныя людзі не зразумеюць, што нельга эканоміць на сваёй будучыні.

**С. ЛАЎНІК.**

**Фота А. УЛАДАСЕВІЧА.**

## РЭФЭРЭНДУМ — АПОШНЯЯ НАДЗЕЯ

Таму й стварылі каардынацыйную раду ўдзельнікі канфэрэнцыі па праблемах рэфэрэндума, якую ў зале факультэта беларускай філялёгіі і культуры Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы правяла ініцыятыўная група. Усяго на канфэрэнцыю сабралася звыш 50 дэлегатаў з Горадні, Ваўкавыска, Мастоў, Сьвіслачы. Яны выпрацавалі чатыры асноўныя накірункі дзейнасьці, у рэчышчы якіх неабходна працаваць актывістам па правядзеньню рэфэрэндума:

1. Выкарыстаньне палітычнай сітуацыі напярэдадні чарговай сэсіі ВС РБ.
2. Каардынацыйная дзейнасьць суполак рознага палітычнага кірунку.
3. Прапагандысцкая актывізацыя дэмсілаў з мэтай тлумачэньня і пераканаiньня грамадзян у непазьбежнасьці рэфэрэндуму.
4. Збор сродкаў на падрыхтоўку й павядзеньне рэфэрэндума.

Як зазначыў старшыня Гарадзенскай рады БНФ К. Жынь, гэтыя захады неабходны, каб спыніць антыдзяржаўную палітыку кіруючых колаў Рэспублікі Беларусь, якія робяць усё, каб дыскрэдытаваць ідэю рэфэрэндума.

**Г. ПРЫСУТНЫ.**

## ПРЫЦІСКАЮЦЬ ПРАДПРЫЙМАЛЬНІКАЎ

**Ударам пад дых назвалі апошнія пастановы ўрада ўдзельнікі пашыранага паседжаньня Савета прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь. Менская сустрэча выявіла антыпрадпрыймальніцкую палітыку Саўміна, накіраваную на паэтапнае зьнішчэньне незалежнай прамысловасьці. У праватнасьці, як распавёў старшыня прафсаюза каапэратываў «Ліга» Яўген Кармільчык, рэпрэсыўная падаткавая палітыка, забароны прыватнікам гандляваць алкагольнымі вырабамі ствараюць неспрыяльныя ўмовы існаваньня каапэратыўнага руху.**

**Замежныя назіральнікі зьвярнулі ўвагу на тое, што пастанова парушае Закон аб прадпрыемстве.**

**Г. СТРУМЕНЬ.**

## *МАЛЕБЕН ЗА ЛІДЭРАЎ БНФ*

***Дзесяткі сьвечак запалілі вернікі ў Пакроўскім саборы ў Горадні на ранішняй літургіі, калі пратаірэй айцец Уладзімір распачаў малебен за здароўе людзей, якія зьвязалі свой лёс са сьвятой справай адраджэньня Беларусі — спадароў Зянона Пазьняка і Юры Хадыкі.***

***Але чаму ў праваслаўным храме моляцца за каталіка Пазьняка і ўніята Хадыку? Спадарыня З. Жук патлумачыла: «Шаноўныя грамадзяне Пазьняк і Хадыка самаахвярна змагаліся супраць зграі бязбожнікаў, чым заслужылі пашану людзей. Сёньняшні малебен гучыць за тое, каб Бог пачуў пра пакуты беларускага народа, натхніў сілай і розумам нявольнікаў Божых Зянона і Юрыя, абараніў іх перад злаўмысьнікамі. Дзякуючы іх самаадданасьці ў барацьбе за волю сёньня ў поўны голас гучыць на Беларусі слова Божае».***

***Дарэчы, паводле царкоўнага прэйскуранту замовіць малебен каштуе 50 рублёў.***

**Г. ДАРОЖНЫ.**

## *СЛУЖБА БЯСЬПЕКІ ДБАЕ*

*70 блёкаў славутых цыгарэт «Мальбара», вялікі марскі храномэтр, называны чамусьці «Палёт», лазэрны артпрыцэл за 500 тысяч рублёў, артылерыйскі дальнамер начнога бачаньня, таксама вельмі дарагі, кішэнныя гадзіньнікі, нават антыкварныя, царкоўныя абразы, мэдычныя мікраскопы ды іншыя рэчы — усё гэта было выстаўлена для агляду ў клюбе вабласной управы КДБ. Выставу кантрабанды атрымалі магчымасьць убачыць гарадзенскія журналісты, якія былі запрошаны ў гэтую установу на «брыфінг» — спатканьне з прэсай, на якім кіраўнікі паасобных службаў паведамілі зьвесткі, якія не зьяўляюцца дзяржаўнай тайнай, але пры дапамозе якіх можна ўявіць, аб чым дбае КДБ сёньня.*

*Сёлета сьледчы адзьдзел займаўся 22 справамі, зь якіх 16 зьвязаны з кантрабандай, а 4 — з парушэньнем дзяржаўнай мяжы. З замежных грамадзянаў найбольш замяшаны ў гэтых справах суседзі з Рэспублікі Польшча, а таксама 2 — з ФРГ (кантрабанда зброі) й адна ўетнамка. Раней асноўнай кантрабандай была валюта і каштоўнасьці, цяпер — мэталы, у апошнія месяцы — замежныя цыгарэты, а таксама мэдалі і ордэны: савецкія і царскія. Нядаўна, напрыклад, у цягніку, які рушыў на Захад, была знойдзена схованка з соткамі ордэнаў. Але яе гаспадара, на жаль, адшукаць ня ўдалося.*

*Ад пачатку года ў вабласной управе КДБ прынялі 780 наведнікаў. Рэч у тым, што тут разглядаюцца справы рэпрэсіраваных з мэтаю іх рэабілітацыі. Усяго на жыхароў вобласьці НКВД і МГБ было заведзена каля 30 тысяч крымінальных спраў. 15 тысяч зь іх ужо разгледжана. Займаецца гэтым спэцгрупа. А тэрмін адведзены ў 5 год. Сёлета разгледжана было 1841 справа, з каторых 710 — па пісьмовых заявах грамадзян. Зьвярнуліся таксама і больш за 3 тысячы тых, хто ў апошнюю вайну быў угнаны ў Нямеччыну. Ім за гэты час дзеля атрыманьня пэнсіі налічваецца працоўны стаж у прапорцыі адзін год за два або за тры. Карацей, настаў час справядлівасьці. Трэба спадзявацца, што некалі маральную сатысфакцыю атрымаюць і тыя тысячы людзей, якія былі сасланы пры Сталіне адміністрацыйна, бяз усякага суда й сьледства.*

*Дарэчы заўважыць, гарадзенская бясьпека зпрагназавала сёньня бум з транзітам праз Беларусь каляровых мэталаў. Аб гэтым было своечасова паведамлена ўраду. Да гэтага дню пры дапамозе КДБ і іншых службаў затрыманы тысячы тонаў розных мэталаў. Вось некалькі прыкладаў. У ліпені — 11 тонаў медзі, якая паступіла пачаткова ў Ваўкавыск, 204 тоны — у Ліду. У верасьні 425 тонаў латуні прыбыло ў Горадню, нібы на «Азот». 60 тонаў нікелю затрымана ў Астраўцы. З-за таго, што паміж Беларусьсю і Летувой не існуе сапраўднае мяжы, наша тэрыторыя выкарыстоўваецца летувісамі для кантрабанднай перакідкі каляровых мэталаў.*

*У падрыхтоўцы і правядзеньні падобных акцый служба бясьпекі супрацоўнічае зь міліцыяй і мытнікамі. Дарэчы, дзякуючы гэтаму ад пачатка году за спрыяньне ў кантрабандным перавозе цераз мяжу розных тавараў звольнена 11 мытных інспэктараў. Нядаўна ў падобнай справе аказаўся замяшаны нават начальнік адной з пагранзаставаў.*

*На брыфінгу было падкрэсьлена, што КДБ спрыяе ўраду і Вярхоўнаму Савету ў ажыцьцяўленьні зьнешнепалітычнай дзейнасьці, працуе дзеля ўмацаваньня сувэрэннай беларускай дзяржавы. Дарэчы, на адрас нашай газэты прагучалі добрыя словы.*

**А. С.**

# ПЕРАКРЫЖАВАНЫЯ КОЛЫ ЭЙЛЕРА

## або Каму і якая карысьць у адраджэньні беларускай дзяржавы?

У апошні час зрабілася ледзь ня добрым густам супрацьстаўляць правы чалавека і правы нацыі. Зразумела чаму: зьдзяйсьняючы свае права на самавызначэньне, карыстаючыся распадам імпэрыі камуністых, нацыі часьцяком папіраюць правы чалавека, у тым ліку і такія асноватворныя, як права на жыцьцё, права на жытло і інш. Некаторыя нават сьцьвярджаюць, што правы чалавека першасныя, а ўсе астатнія — вытворныя ад іх, у тым ліку й правы нацыі. Не адмаўляючы значэньня правоў чалавека, асабліва ў посткамуністычнай дзяржаве, правамерна ўсумніцца ў іх абсалютнасьці, хоць бы толькі таму, што няма нічога абсалютнага.

1. Правы чалавека ня існуюць без механізму іх рэалізіцыі. Рэалізаваць правы чалавека можа толькі дзяржава праз свае структуры. А дзяржавы, як вядома, ствараюць нацыі, этнасы. Касмапаліты не стварылі ані воднай дзяржавы. Калі на аснове пастулата аб першаснасьці правоў чалавека стварыць тэорыю, то гэта будзе прыгожая й лягічна супярэчлівая схэма, дзе мяркуецца роўнасьць усіх зямлян у любой кропцы плянэты. Аднак жыцьцё далёка ад гэтай абстракцыі і, баюся, што прыхільнікаў чыстых правоў чалавека, як зараз гэта здарылася са змагарамі за першаснасьць клясавых інтарэсаў пралетарыята, чакае расчараваньне ў сваёй утопіі. Калі нацыі ня ствараюць сваёй дзяржаўнасьці, дык хто ж забясьпечыць правы чалавека?

2. У тым выпадку, калі беларускі народ не адродзіць сваю самасьвядомасьць, не адновіць сваю дзяржаўнасьць і зьнікне зь гістарычнай арэны, то на месцы тэрыторыі Беларусі будзе панаваць альбо руская, альбо польская дзяржаўнасьць. Новая дзяржава, верагодна, забясьпечыць пэўныя правы чалавека, у тым ліку і нацыянальныя правы беларусаў, напрыклад, у выглядзе культурнай аўтаноміі ці ў форме рэзэрвацыі. Але ў гэтым выпадку трэба будзе гаварыць не аб правах чалавека, але аб гэапалітычных густах нашых суседзяў. І потым, ці ўсе прыхільнікі першаснасьці правоў чалавека ўпэўнены ў тым, што руская, польская, летувіская, украінская дзяржавы абароняць іх правы лепш, чым дзяржава беларускай нацыі?

3. Ёсьць падставы лічыць, што беларускі народ зможа адрадзіцца й умацаваць сваю нацыянальную дзяржаву, незалежна ад палітычнай ролі чыстых дэмакратаў. Але як тады будуць выглядаць гэтыя людзі ў вачох беларускага народа?

Такім чынам, відавочна, што правы чалавека й правы нацыі не знаходзяцца ў адносінах субардынацыі, а якасьць іх узаемасувязі нагадвае хутчэй перакрыжаваныя колы Эйлера. Гэта аб'ектыўнасьць жыцьця, а ўзровень абароненасьці правоў чалавека залежыць ад узроўню абароненасьці правоў нацыі.

А тэорыя, безумоўна, цікавая... Прадуктыўны й гуманны характар тэорыі першаснасьці правоў чалавека ніхто не абвяргае.

**С. СНОП,**
**г. Горадня.**

# ВЯРТАНЬНЕ ДА ВЫТОКАЎ

Высока ўзьнятыя харугвы, шмат сьвечак, пяючыя вернікі, іконы стварылі незабыўнае відовішча ў час хрэснага ходу з малебнам вакол праваслаўнага Пакроўскага сабора ў Горадні з нагоды галоўнага восеньскага сьвята Пакроў. Вернікі кладуць яблыкі, грушы, хлеб на стол, дзе ўжо шмат дароў восені. Распытваем некалькі сталых спадарынь, што азначае іх ахвяраваньне. Галіна Вайтукевіч тлумачыць так: «Тое, што бачыце вы на стале,— гэта даніна памерлым продкам. Зараз восень, і калі ўсё пасьпела, трэба выконваць хрысьціянскі запавет — дзяліцца. Робячы ахвяру тут, у храме, мы як бы яднаем нашыя душы са сваімі заснуўшымі да другога прышэсьця Хрыста продкамі».

— Сьвятая Пакроў прыйшла на зямлю Блаславёнай Беларусі,— гучыць голас пратаірэя айца Генадзя.— Мы ўдзячны Богу за ўраджай на нашых палетках, за сілы, якія даў нам Бог для плённай працы. Сьвятая Пакроў прыйшла на зямлю нашай Беларусі, каб атуліць нас ад няшчасьцяў і нядолі».

Гісторыя сьвятых Пакроў выходзіць з глыбінь стагодзьдзяў і налічвае больш шасьцісот год. Пачалася яна на зямлі Балгарыі, на якую кожную восень рабілі набегі асманцы, зьбіраючы багатую даніну, зьнішчаючы палеткі, селішчы, забіраючы ў няволю людзей. Аднойчы ў гэты дзень вернікі прыйшлі ў храм, каб маліцца Богу і прасіць у яго абароны. Раптам блажэннаму Андрэю і яго вучню Эпіфанію зьявіўся вобраз Божай маці, якая малілася доўгі час, абліваючы свой твар сьлязамі. Затым, калі скончыла малітву, зьняла зь сябе (шаль) і пакрыла ім прысутных. Калі на Балгарыю ізноў прыйшлі асманцы і пачалі забіваць людзей, то стрэлы, выпушчаныя з лукаў, вярталіся і зьнішчалі захопнікаў. Некаторыя асманцы ўцяклі ад жаху, а большасьць прынялі хрысьціянства.

З таго часу многае перамянілася, сьвята Пакроў з народнага стала царкоўным сьвятам, але сапраўдныя вернікі дагэтуль памятуюць яго вытокі і захоўваюць традыцыі.

**Г. АСТРОЎСКІ,**
**С. ЛАЎНІК.**
**Фота У. Г.**



# ПОЎНЫ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ

Пасьля працяглага існаваньня ў падпольлі, партыя камуністаў у Горадні ўрэшце зьявілася ў полі зроку журналістаў і нават правяла прэсканфэрэнцыю, зь якой прысутныя на ёй журналісты даведаліся, што ў горадзе працуюць абкам і гаркам ПКБ, абраны палітвыканкам, у якім, па словах аднаго камуніста, аж 36 беларусаў, па словах другога — 34,33 расейцы, крыху палякаў, украінцаў, татараў і габрэяў — адным словам, поўны інтэрнацыянал.

Я ўглядаўся ў аблічча «новых» правадыроў і абаронцаў народных мас і ўпэўнены ў тым, што ўсе яны — учарашнія былыя сакратары, партаргі, партактывісты. На словах ім даспадобы адраджэньне беларускай культуры, мовы, але яны за дзяржаўнае дзьвюхмоўе. Камуністы Горадні за рэформы, але без прыватнай маёмасьці, без права валодаць зямлёй і перадаваць яе нашчадкам. Відаць, сустрэча і скончылася б спакойна, ды зьнянацку завітала ў залу актывістка Славянскага сабору, якая ўжо сёньня гатова аддаць пад суд «народа» вабласное радыё за рэпартаж зь нядаўняга мітынгу БНФ.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

# МАЛАЯ КРАІНА — ВЯЛІКІЯ ГРОШЫ, ВЯЛІКАЯ КРАІНА — МАЛЫЯ ГРОШЫ...

Чэргі, даўжэзныя чэргі ўтварыліся апошнімі днямі ў гарадзенскіх банках. Чаму, што за бум? Жыхары сувэрэннай Беларусі нарэшце залюбілі беларускія, хай і часовыя, грошы. Жыцьцё прымусіла. Існуе ў ім пэўная праўдзівая лёгіка: будзь ты хоць тройчы блудным сынам, але ўсё адно табе наканавана, хаця б і ў апошнія свае хвілі, але ўспомніць зь любоўю аб Бацькаўшчыне. Будзь ты тройчы атручаным гома саветыкусам, але аднойчы сам скажаш словы «беларускія грошы» з павагай, а «савецкія» — вымавіш пагардліва. І гэтак сталася, ва ўсякім разе з жыхарамі Гарадзеншчыны. Ад 12 кастрычніка напачатку пакуль толькі харчы ў крамах купляюцца выключна за Нашыя грошы. Да канца месяца ў банку можна будзе абмяняць на асобу 2 тысячы савецкіх рублёў на беларускія. Прычыны гэтае падзеі вядомыя й таму спыняцца на іх ня буду.

Вернемся назад на чатыры месяцы й аднавім у сваёй памяці цёплы травень. А-я-яй! Якое ліха напаткала беларусаў! Адгэтуль палову заробку будуць выдаваць новымі — беларускімі грашыма... Недавер, кпіны, пагарда пачуліся ў адказ. Пра свае грошы прыдумалі адразу нейкія сумнеўныя показкі, сталі называць іх іранічна «зайцамі» і г. д. Толькі ідыёт можа сьцьвярджаць, што рублі лепшыя ад нямецкіх марак або даляраў. Толькі ідыёт можа думаць, што адзін беларускі рубель, які каштуе дзесяць савецкіх, усё адно горш і таньней за іх. Мне пачынала парой здавацца, што я належу да нацыі, не знаёмай з арыфмэтыкай. Гісторыя вядомая. Калісьці вяскоўцы масава паехалі ў гарады — працаваць, вучыцца, і пачулі ад гарадзкіх недавумкаў, што «вясковая» мова брыдкая й непаўнавартая. Пачалі яе саромецца, выракацца й перавучвацца на лепшую, гарадзкую. Тое ж самае адбылося й з нашымі грашыма.



Прашу, аднак, не палічыць мяне за наіўнага юнага максімаліста. Мне вядома таксама, што вызначае сьвядомасьць побыт. Але ж вядома й тое, што побыт й сьвядомасьць у немца — нямецкія. У француза... Адно ў беларуса ўсё гэта — гомасавецкае, таму, калі раптам падзьме заўтра іншы вецер, ён зноў разьлюбіць айчынныя рублі. Гэтага й шкада. За гэта й крыўдна, што няма ў народзе ўласнага нацыянальнага стрыжня. А так: плястылін. Рабі зь яго што хочаш. Завядзі заўтра грошы з Маа-Цзэдунам і скажы, што мы — кітайцы... або з Валэнсам ці Ляндзбэргам... А гэтак ужо магло й стацца. Ня могуць ільлічоўскія рублі існаваць бясконца доўга, бо няма Дзяржбанка СССР, пад шыльдай якога яны дагэтуль друкуюцца недзе ў Маскве. Лагічна, што яны ў бліжэйшае будучыні будуць заменены на рублі з выявай дзьвюхгаловага арла.

На працягу лета мне не аднойчы даводзілася чуць: вашыя беларускія грошы нічым не падмацаваныя, а за плячыма савецкага рубля. (хай ён і штотыдзень няўхільна дэвальвуецца) каштоўныя выкапні, процьма нафты, шахты, заводы, чыгункі і г. д. Я не спрачаўся. Навошта? Я папросту спакойна верыў ва ўсё сваё, бо такую маю звычку. У мяне ня было аніякіх ілюзій, я разумеў, што беларускі рубель мог упасьці кожнага дня. Але прайшло амаль пяць месяцаў(!) і ён трывае упэўнена адносна савецкага 1/10. А савецкі, не зважаючы на мора нафты, паранейшаму валіцца. Існуюць, канешне, законы эканомікі, але таксама як зараза жывучыя савецкія міфы. Няма ў Даніі выкапняў, але гэта краіна! 70 гадоў СССР меў процьму выкапняў, але заставаўся краем беднякоў.

Шчыра прызнаюся: я ня ведаю, дзякуючы чаму трымаецца беларускі рубель, але я ведаю дакладна, што ён трымаецца. Не выпадкова ж пра нашыя грошы ўвесь час маўчала маскоўскае тэлебачаньне, якое тым жа часам не без задавальненьня паведамляла аб тым, што ўкраінскі купон і латвійскі рубель адразу капітулявалі перад савецкім. Бо да беларусаў існуе падсьвядомая зайздрасьць: усё ў іх, маўляў, незаслужана — кілбаса, «зубры», нават ураджаі пасьля Чарнобыля рэзка ўзрасьці...

Магчыма, пагарда суайчыньнікаў да беларускіх грошай крыху прышчапілася й мне, толькі адваротна. Памятаю, калі аднойчы перада мной пакупнік сьлёзна ўпрошваў прадаўшчыцу хоць палову рэшты здаць яму савецкімі, яна недаўменна запытала сама сябе: «Й чаго яны ўсе просяць?», у мяне зьляцела «Бо гомасаветыкусы». Ён не пакрыўдзіўся, ці не зразумеў, а можа папросту не пачуў. Можна ўсяго гэтага й амаль не заўважаць, аднак амаль немінуча нараджаецца лёккая пагарда да тых, хто тупа выракаецца свайго роднага, бо гэта ўсё ж анамалія. Аднолькава — як п'янстваваць, не чытаць кніжак, думаць адно пра кілбасу і г. д.— гэта не нармальна. Бог не дзеля гэтага падараваў чалавеку шэрае рэчыва.

Ну й што? А нічога. Мала ім было «паўлаўскага» ашуканства. Файна было абменьваць тады 50- і 100-рублёўкі? У мяне, дарэчы, ня было ані воднай. Некаторыя мае суайчыньнікі-беларусы ўсе свае беларускія грошы нядаўна абменьвалі да рубля на савецкія. І што? А нічога. Цяпер ім хлеба няма за што набыць. Заставайцеся надалей гома-саветыкусамі, шчасьлівай дарогі.

Так, кепскаватыя кебічавы грошы, несапраўдныя. Але ж на іх — выява Пагоні. Яны — бадай адзіная, апроч гэрба й сьцяга, прыкмета нашае незалежнасьці. Яны — рэальны крок да сапраўдных грошай, да беларускага талера. Яны, урэшце рэшт, унутры краіны каштуюць 10 савецкіх рублёў. Савецкіх, каторыя неўзабаве стануць значна горш за нікчэмныя злотыя. А вось некаторыя беларусы гавораць: а мне падабаюцца нашы «зубры», невялікія, зручныя. Памятаю, як даўней адзін, яшчэ гэдээраўскі, немец, паказваючы вялікія нямецкія банкноты, казаў: малая краіна — вялікія грошы, вялікая краіна — малыя грошы...

**С. В.**
**Фота А. УЛАДАСЕВІЧА.**

# АД'ЯЗДЖАЙЦЕ, КАЛІ ЛАСКА!

Гэта ж трэба! Нядаўна ў майго суседа гасьцяваў сваяк з Уралу. Ветлы на першы погляд чалавек, але праз пэўны час пасьля яго ад'езду і суседзі пачалі зьбірацца на радзіму ў Перм.

Я пацікавіўся, чаму яны кідаюць абжытае месца, і ў адказ пачуў: «Вы, беларусы, аб'яднаецеся з палякамі, а нас, рускіх, усіх пашлеце на шыбеніцу. Так мяркуюць і нашыя родзічы, якія былі тут і на сабе адчулі ваш нацыяналізм».

Сьмеху вартая заява, ня болей. Але калі ўважліва слухаеш няўзораўскія перадачы, у якіх для рускіх, што жывуць па-за межамі Расеі, мэтанакіравана ствараецца вораг у васобе беларуса, грузіна, украінца, робіцца жахліва. Бо патрыёты накшталт гэнерала Лебедзя, кола казакаў усяму сьвету паказалі мэтады, якімі яны абараняюць інтарэсы расейскай меньшасьці ў бліжнім замежжы. І такіх апантаных патрыётаў на тэрыторыі суседняй Расеі мноства. Яны даўно гатовыя кінуцца ў бой, каб выратаваць адзіную і недзялімую. Вось і мае суседзі, калі ад'едуць, будуць распавядаць там, на Урале, што іх тут прыгняталі, і маляваць вобраз ворага, якога не існуе наогул.

Шкада, што вось з такімі пачуцьцямі ад'язджаюць людзі, бо некалі, гадоў дзесяць таму, калі яны прыехалі ў Горадню, мы дапамагалі ім ва ўсім. Скажу шчыра — вучылі жыць. Таму хачу нагадаць усім, хто жадае пакінуць Беларусь: наша зямля была гасьціннай для вас, таму лепш кажыце пра яе праўду.

**Г. СТРУМЕНЬ.**




*Дзякуй Богу, мы дажылі да таго часу, калі цэрквы пачалі вяртаць іх законным уладальнікам — вернікам, і чалавеку ёсьць куды пайсьці, каб памаліцца Богу й падумаць аб Вечным, а ня толькі аб прозе нашага нялёгкага сучаснага жыцьця. Але часам гэтая перадача храмаў адбываецца такім чынам, што прыходзіць у галаву сумная аналёгія з гадамі пасьля кастрычніцкага перавароту 17 года: як тады бальшавіцкімі ўладамі з дапамогай цёмных, задураных людзей руйнаваліся цэрквы, касьцёлы, зьнішчалася вера ў Бога й людзі, якія аддана служылі Богу, так цяпер царква з дапамогай уладаў і вернікаў пачала выганяць з храмаў установы культуры (намаганьнямі супрацоўнікаў якіх, часьцей за ўсё, і былі выратаваныя ад разбурэньня гэтыя храмы), тым самым наносячы шкоду справе адраджэньня й захаваньня гістарычнай спадчыны, культуры й духоўнасьці беларускага народу.*

*Сёньня ў Горадні пакуль што яшчэ дзейнічае Беларускі дзяржаўны музэй гісторыі рэлігіі, адзін з найлепшых музэяў у Беларусі і галоўны цэнтр беларускай культуры ў Горадні. Яшчэ пакуль што можна прыйсьці сюды на мастацкую выставу, канцэрт камэрнай музыкі, Сьвята майстроў або іншую імпрэзу. Аднак існаваньне музэя, прынамсі, ў сучасным выглядзе знаходзіцца пад пагрозай з-за прэтэнзіяў праваслаўнай царквы на будынкі, у якіх месьціцца музэй. Гэта былы жаночы вуніяцкі базылянскі кляштар, заснаваны грэка-каталікамі ў 1633 годзе. Пасьля ліквідацыі расейскім царскім урадам Уніі ў 1839 годзе кляштар быў перададзены Рускай праваслаўнай царкве.*

*У адказ на прэтэнзіі праваслаўнай царквы на будынкі вуніяцкага кляштара Гарадзенскі гарвыканкам 17 ліпеня 1991 г. прыняў рашэньне не перадаваць комплекс манастыра ніводнай рэлігійнай канфэсіі, а захаваць яго за музэям. Насуперак гэтаму рашэньню аблвыканкам перадае праваслаўнай царкве адміністрацыйны будынак музэя, а затым рашэньнем ад 29 чэрвеня 1992 года па адрасу, дзе месьціцца музэй, рэгіструе Раства-Багародзічны праваслаўны манастыр. Аб скандальных дзеяньнях прадстаўнікоў праваслаўнай царквы па захопу памяшканьняў музэя ня раз паведамлялася ў беларускім друку. Натхнёныя падтрымкі вабласных уладаў, праваслаўныя верніцы на чале са сьвятаром выкідваюць мэблю й дакумэнтацыю музэя проста на двор, пад дождж, і нават ішлі на таран, узброіўшыся бервяном і дапамагаючы сабе ў гэтай «сьвятой» справе рэлігійнымі сьпевамі. Адчуў на сваёй сьпіне сілу кулакоў праваслаўных хрысьціянак і вуніяцкі сьвятар а. Віктар Данілаў. Міліцыя, выкліканая супрацоўнікамі музэя, ня стала ўмешвацца.*

*У Горадні ёсьць спадкаемца маёмасьці кляштара базыльянак — Гарадзенская грэка-каталіцкая суполка, і няма ніводнага вуніяцкага храма, у той час, як дзейнічаюць тры праваслаўныя цэрквы й капліца на праваслаўных могілках.*

*Прызнаючы тое, што рэлігійныя храмы, несумненна, павінны быць вернутыя вернікам дзеля выкарыстаньня па прызначэньню — адпраўленьня рэлігійных абрадаў і зьвяртаньня людзей да Бога, гарадзенскія вуніяты, у адрозьненьне ад некаторых праваслаўных вернікаў, тым ня меньш, упэўненыя, што гэта павінна адбывацца цывілізаваным шляхам, без зьнішчэньня асяродкаў культуры. Перасяленьне музэя зараз у памяшканьне, прапанаванае Гарадзенкім аблвыканкамам, нанясе непапраўную шкоду экспазыцыі музэя й той ролі, якую адыгрывае музэй у культурным жыцьці Беларусі, у справе далучэньня беларускага народу да ягонай гістарычнай і культурнай спадчыны. Разумеючы фінінсавыя цяжкасьці дзяржавы й немагчымасьць сёньня выдзяленьня музэю гісторыі рэлігіі новага будынка, які адпавядаў бы мэце стварэньня нацыянальна-культурнага асяродка ў горадзе, Гарадзенская грэка-каталіцкая суполка прапануе наступнае рашэньне праблемы:*

*1) адмяніць рашэньне Гарадзенскага аблвыканкама аб перадачы праваслаўнай царкве будынкаў кляштара базыльянак як незаконнае й шкоднае для разьвіцьця беларускай культуры;*

*2) перадаць у карыстаньне Гарадзенскай грэка-каталіцкай суполцы царкву Раства-Багародзіцы былога кляштара базыльянак, дзеля правядзеньня набажэнстваў, пакінуўшы яе на балансе музэя, пры захаваньні ўсёй дзейнасьці музэя як цэнтра беларускай культуры; астатнія памяшканьні кляштара пакінуць у валоданьні Беларускага музэя гісторыі рэлігіі.*

*Дзейнасьць Беларускай вуніяцкай царквы накіравана на адраджэньне нацыянальнай культуры беларусаў і духоўнасьці, і таму гэткае супрацоўніцтва музэя й Гарадзенскай вуніяцкай суполкі задаволіла б грэка-каталікоў Горадні й захвала б дзейнасьць музэя ў яе сучасным выглядзе й тым самым спрыяла б захаваньню й адраджэньню беларускай культуры і хрысьціянскай маралі.*

**В. БЯЗЬМЕН,**
**Ю. МАЦКО,**
**упаўнаважаныя ад Гарадзенскае грэка-каталіцкае суполкі.**



# ЯКІХ АФІЦЭРАЎ НЕ СТАЕ БЕЛАРУСКАМУ ВОЙСКУ

**Сёньня часта дыскутуюць, якія афіцэры патрэбны беларускаму войску. Ці то тыя «прафэсіяналы», якія ня хочуць прысягаць народу й дзяржаве, што іх кормяць і апранаюць, ці тыя, хто «славянскае» разумее толькі як расейскае, да таго ж у межах 1914 года! Бо нібы іншых і няма. Бо нібыта беларусы — афіцэры, трапіўшы ў звышінтэрнацыяналізаванае асяродзьдзе, спрэс асімілююцца і пазбываюцца якой бы то ні было нацыянальнай сьвядомасьці. Часам гэта падаецца як нейкая каканаванасьць беларусаў. Так сапраўды здараецца. Часта, але не заўсёды і не паўсюдна. Ёсьць, на шчасьце, іншыя прыклады.**

З 1990 года сябры таварыства «Паходня» атрымліваюць з Казахстана газэту «Рокаш». Выдаецца яна таварыствам беларускай мовы ў г. Прыазёрску. Суполка заснавана групай патрыятычных афіцэраў зь Беларусі, закінутых вайсковым лёсам далёка ад Бацькаўшчыны. Узначаліў суполку падпалкоўнік Станіслаў Суднік.

За тысячы кілямэтраў ад Беларусі ўзьнікла супольнасьць не па запісах у пашпарце, а па духу, па сьвядомасьці беларускай. Патрэба спазнаньня сябе, свайго нацыянальнага «я», сваёй прыналежнасьці да буйнога народу з багатай культурай і цікавай гісторыяй служыла вытокам жаданьня перадаць усё гэта дзецям.

Чытаючы «Рокаш» (назва паходзіць ад старабеларускага слова «закалот», «мяцеж»), даведваемся пра беларускую школу, дзе выкладаюць гэтыя ж афіцэры. Аб якасьці навучаньня сьведчыць дзевяцікласьніца, што, вярнуўшыся на Беларусь, ня мела патрэбы давучвацца пасьля ўрокаў сп. Судніка. Недахоп мэтадычных матэрыялаў, на што сёньня скардзяцца ўсе настаўнікі, гэтыя людзі кампэнсавалі стараннасьцю й глыбокім пачуцьцём абавязку. Праз «ЛіМ» зьвярнуліся да ўсіх, хто можа, каб дасылалі ім кніжкі, слоўнікі, чытанкі для дзетак. І атрымалі дапамогу з розных канцоў Беларусі, у тым ліку і ад «Паходні».

Нямала іншых спраў у нашых суродзічаў. Сувязь зь беларускімі таварыствамі Масквы, Пецярбурга, Алма-Аты, Цьверы, прапановы ў Вярхоўны Савет Беларусі, збор сродкаў для рухаў на Беларусі. Выдаючы «Рокаш», трэба было рабіць яго цікавым і там, у Казахстане, і далёка, куды ён разсылаецца бязплатна. Матэрыялы па гісторыі, меркаваньню, грамадзкаму жыцьцю, аб вайсковай рэформе і яе галоўных праблемах — усё гэта можна знайсьці на старонках «Рокаш». І да гэтага ўсяго шмат вершаў — патрыятычных, лірычных. Усё больш — пра Беларусь. Вершаў, пэўна, неблагіх, калі сур´ёзны беларускі чалавек нядаўна надрукаваў цэлую нізку іх з-пад пяра Станіслава Судніка. Падпалкоўнік, што піша беларускія вершы? Унікум? Але за ім ідуць капітаны і лейтэнанты. Дай Божа такіх афіцэраў беларускаму войску!

А ўявіце залу вайсковай часткі, упрыгожаную «Пагоняй», бел-чырвона-белым нацыянальным і дзяржаўным сьцягам — БССР, бо гэта — сакавік 1991 года. А ў зале больш двух дзесяткаў афіцэраў, сярод якіх два гэнералы. Адбываецца ўрачыстасьць, прысьвечаная 73 угодкам абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзе яшчэ той путч, дзе тая незалежнасьць? І не ў Менску, а ў Казахстане гучаць прамовы аб далёкіх па часе падзеях, стаўшых сёньня такімі надзённымі. На гэта ў тыя дні было мала аднаго пачуцьця, патрэбны былі рашучасьць і вытрымка.

Ня ўсё і не заўсёды ішло гладка. Путч прынёс спадзяваньні тым, хто ўсё хацеў бы вярнуцца ў мінулае. Са сп. Суднікам адпаведныя службовыя асобы распачалі «беседы». Пераконвалі ў непатрэбнасьці ўсяго таго, чым Суднік зь сябрамі цікавіцца й займаецца. «Дакумэнтамі» ці доказамі служылі публікацыі сяброў суполкі ў беларускім друку. Знайшоўся і зямляк «без лести (а можа, «бяз літасьці») преданный», што не пашкадаваў сілы й часу, каб іх сабраць і перакласьці на расейскую мову, каб начальства зразумела, якія крамольнікі атабарыліся пад яго бокам. Начальства на ўсялякі выпадак забараніла друкаваць «Рокаш» на казённым абсталяваньні.

Але час бярэ сваё. І мары пра Беларускае войска набываюць прыкметы рэальнасьці. Але каб гэта было сапраўды войска Беларускай дзяржавы, патрэбны агульныя высілкі патрыятычных вайскоўцаў і ўсяго грамадзтва. Высьпявае ідэя стварэньня Беларускага згуртаваньня Вайскоўцаў — грамадзка-патрыятычнага руху за абарону дэмакратыі і дзяржаўнага сувэрэнітэту Беларусі, за тое, каб новае беларускае войска стала сапраўдным гарантам гэтага сувэрэнітэту. І калі адбыўся ўстаноўчы сойм згуртаваньня, казахскія беларусы-афіцэры былі там не гасьцямі.

На іх прыкладзе бачым, як, нарадзіўшы сабе цікавае, паўнакроўнае жыцьцё, параўноўча невялікая грамада можа аддаць вялікую паслугу Бацькаўшчыне. Іх рупная дзейнасьць дала важкія грамадзкія вынікі. Можа, не зашмат такіх людзей на ўвесь наш 10-мільённы народ, але добра, што яны ёсьць. І добра, што яны не самотныя. Гэта пацьвердзілася, калі супольна з афіцэрамі БЭВ 8 верасьня сталі да прысягі народу й яго дзяржаве сотні сьвядомых патрыётаў — вайскоўцаў запасу ў Менску, Жлобіне, Горадні, Брэсьце, Оршы, Салігорску, па ўсёй Беларусі.

Жыцьме, Беларусь

**А. Д.**

# БЕЛАРУСЫ Ў КІТАІ

**Не чакаючы, пакуль на ўзроўні ўраду будуць падпісаны адпаведныя гандлёвыя пагадненьні зь Кітаем, гарадзенскія гандляры пачалі асвойваць кітайскі рынак. Аб прыватнай гандлёвай дзейнасьці на кітайскіх торжышчах беларускіх турыстаў распавяла карэспандэнту «Пагоні» Тацьцяна Д.**

**— Тацьцяна, што увогуле ўяўляе сабой кітайскі рынак!**

— О, гэта нешта не параўнальнае ані з чым. Уявіце сабе вялізарную плошчу, дзе сабралася да сотні тысяч люду і ўсе яны з усходняй, заўважце, далікатнасьцю прапаноўваюць свой тавар. Калі казаць шчыра, то кітайскі рынак больш маўклівы, стрыманы, тут ўперамежку стаяць рады прамысловых і харчовых тавараў. Фактычна на кожным кроку маленечкія кітайскія кухні, дзе можна перакусіць, але яне каштавала. Муж, праўда, раз паспытаў. Яму спадабалася.

**— Як вы трапілі у Кітай!**

— Я ўжо працяглы час жыву з таго, што займаюся прыватным бізнэсам. Напачатку была Польшча, потым Турцыя. У апошняй мы даведаліся аб неблагім попыце ў кітайцаў на нашы тавары. Паехалі, паспрабавалі, зараз працуем на іхніх торжышчах стала. Прыбытак ёсьць, і гэта галоўнае.

**— Што зь беларускіх тавараў добра ідзе там, на ўсходзе!**

— Шмат чаго, кітайцы народ не ганарысты, простыя, з прыемнасьцю бяруць у нас нават карыстаныя ваўняныя рэчы. У іх чамусьці лічыцца асабліва шыкоўнай ваўняная вопратка. Яна ў павазе і за яе даюць добрую цану. Адным словам, гэта прэстыжнае адзеньне, яго носяць больш заможныя людзі, бедныя апранаюць джынсы, красоўкі, кашулі з бавоўны. Яшчэ кітайцы ахвотна купляюць цацкі, вуды, оптыку — чамусьці сярод іх шмат хворых блізарукасьцю.

**— Як кітайцы адносяцца да вас, скажам так, славянаў!**

— Усё-такі усходняя культура й традыцыі ў гэтым народзе маюць глыбокія карані. Кітайцы вельмі ветлыя да нас, заўжды гатовы дапамагчы. Тут я павінна ўдакладніць: да нас, гэта значыць, да беларусаў. З рускімі, напрыклад, у іў крыху іншыя стасункі.

**— Бачыце, мы працуем добрасумленна, не манім, кітайцы гэта асабліва паважаюць, іншыя ж часта займаюцца рэкетам, ашукваюць кітайцаў.**

**— Вы едзеце адна ці з групай!**

— Канешне, групай, нас трыццаць чалавек з Горадні .

**— Пасьля нашай размовы магчыма з´явяцца ахвотнікі працаваць ў Кітаі, вы не баіцеся канкурэнцыі!**

— Што вы, якая канкурэнцыя! Калі бліжэйшы час ў «Хінах» будзе шмат нашых беларусаў, то ўжо зараз ўсёй суполкай мы рыхтуемся да новых маршрутаў. Вывучаем магчымасьці японскага рынку, яго попыт, таксама на ўвазе трымаем ЗША.

**— Калі не сакрэт, як гэта робіцца!**

— Пасылаем на выбранае месца каго-небудзь, і ён зьбірае патрэбныя нам зьвесткі. Мне вось даручылі выпрабаваць амэрыканскі рынак, на днях мы з мужам туды едзем...

Пасьля вяртаньня з Амэрыкі спадарыня Тацьцяна абяцала зайсьці ў рэдакцыю і разказаць пра яе ваяж.

Сапраўды бізнэс ня мае межаў.

**Распытваў Г. АСТРОЎСКІ.**

# РЭКЛЯМА Ў НАШАЙ ГАЗЭЦЕ —

**Гарадзенскі піваварны завод**

ПРАПАНУЕ

## напітак пладовы моцны «АДПАЧЫНАК»




**Ёмістасьць — 0,5 л**
**Моцнасьць — 20%**

ТАННА І СПАЖЫЎНА

**СМАК «АДПАЧЫНКУ»— ГЭТА СМАК САПРАЎДНАЙ АСАЛОДЫ**

**ГАРАДЗЕНСКАЕ ЎПРАЎЛЕНЬНЕ АКЦЫЯНЭРНАГА КАМЭРЦЫЙНАГА БАНКА «БЕЛПРАМБУДБАНК»**

**ПРАВОДЗІЦЬ:**

— падпіску на простыя акцыі (для прадпрыемстваў) намінальным коштам 100 тыс. рублёў кожная і прывілейныя (для грамадзян) 1000 рублёў пакетам ня менш 5 асобнікаў.

ВЫСОКІЯ ДЫВІДЭНТЫ ПА АКЦЫЯМ ГАРАНТАВАНЫ!

— па самым высокім працэнтным стаўкам прыём укладаў ад насельніцтва на тэрмін
да ўспатрэбы — 24% гадавых
ад 1 да 2 гадоў — 50% гадавых
ад 2 да 3 гадоў — 55% гадавых
звыш 3 гадоў — 70% гадавых

— набыцьцё і продаж грамадзянам Рэспублікі Беларусь наяўнай замежнай валюты па рыначнаму курсу

— прыём на захоўваньне каштоўнасьцей у індывідуальных дэпазытных сэйфах

— розныя віды паслуг — кансультацыйнага характару, прыём і перадача інфармацыі па факсу, тэлетайпу і г. д.

**НАШ АДРАС:**

У г. ГОРАДНІ — ВУЛ. ДЗЯРЖЫНСКАГА, 3.
ТЭЛ. 47-03-96
У г. ЛІДЗЕ — ВУЛ. МІЦКЕВІЧА, 6А.
ТЭЛ. 2-44-58
У г. СМАРГОНІ — ВУЛ. САВЕЦКАЯ, 19.
ТЭЛ. 2-21-25
У г. ВАЎКАВЫСКУ — ВУЛ. САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ, 11.
ТЭЛ. 2-18-27

**ЗАЎЖДЫ РАДЫ БАЧЫЦЬ ВАС У НАШЫМ БАНКУ!**

# ПОСЬПЕХ У ВАШЫХ СПРАВАХ!!!





ЛІТАРАТУРНАЯ ЭМІГРАЦЫЯ

А. САКОВІЧ

# У НЯВЕДАМ'Е

**(Працяг. Пачатак у №№ 7—9).**

Ён нічога не адказаў, нахінуўся й асьцярожна, каб не разбудзіць, узяў Ялінку на рукі. Малая не прачыналася. Нячутна, лёгка ступаючы па траве, ішоў ён да дому. Ваньдзе нічога не заставалася, як ісьці за ім. А доктар і ягоная жонка спакойна спалі.

На ганак Ванда ўзыйшла першая, адперла дзьверы й увайшла ў сярэдзіну.

— У хаце нікога няма? — ціха пытаўся Ковель.

— Думаю, што нікога.

— Зашчапі дзьверы на крук,— загадаў ён.

Ванда заклала крук на дзьверах. У пакоі было даволі сьветла ад месяца, і, нічога не запальваючы, Ванда пайшла ў вітальню. Ковель з малой на руках ішоў з ёю. На канапе Ванда паклала рыхтаваную на воз падушку. Ён асьцярожна апусьціў малую, ды сьхінуўшыся, з часінку ўважліва ўглядаўся ў яе. Потым выпрастаўся й павярнуўся да Ванды.

— Дык гэта ў цябе ўжо такая дачка? Вельмі падобная да цябе малой. Здаровая: глядзі, як моцна сыпіць,— гаварыў ён.

Ванда нічога не адказвала. Ад першае часіны, як толькі яна ўбачыла Ковеля ў садзе, віхор пачуцьцяў і ўспамінаў зь неспадзяванай моцай ахапіў яе. Яна ніколі ня думала, што спатканьне зь ім так узрушыць яе. Твар і вушы ў яе палалі. Яна стала плячыма да вакна, каб сьвятло месяца ня падала на ейны твар. Яна баялася, каб ён не дагледзеў ейнага ўзрушэньня: «Ён ня варты таго, каб я ўзрушалася,— цьвердзіла яна сабе, каб супакоіцца: — ён здраднік, ён вораг», і зацята маўчала.

— Ага, ты, відаць, не жадаеш гаварыць з «палітычным авантурыстам»?..— іранічна папытаўся ён, стрыманы гнеў чуўся ў ягоным голасе.

«Дык гэта ён нас у садзе падслухоўваў. Ну, і добра: няхай ведае, што аб ім людзі думаюць».

Яны стаялі блізенька адзін да аднаго. У месячным сьвятле яна добра бачыла ягоны твар: чорныя валасы, гладка зачасаныя назад, просты тонкі нос, пачуцьцёвы ўладны рот і цёмныя, цяпер чорныя ад гневу вочы. Такі знаёмы, такі любы некалі твар, цяпер чужы, варожы й гнеўны. І тое, што ён глядзеў на яе варожа й гаварыў злосна, супакойвала ейнае ўзрушэньне.

— І чым хваліцца стары шалахтун. «Сумленна пражыў». Ды што ад гэтага Бацькаўшчыне, людзям? Якая ім наўда? Два рэцэпты стары дурань вынайшоў: уцякай або чакай, пакуль павесяць. Надзвычай. А што ж рабіць тым, што яшчэ малады, каб хацець памерці? Хто паможа тым, што цяпер па лесе разьбегшыся, па кустох, як зьвяр 'ё, хаваюцца? Хто паможа ім? Хіба што «палітычныя авантурысты»? — з запалам казаў ён і неспадзеўкі суха й адрывіста засьмяяўся.— Ну і кусьлівы стары сабака, а галоўнае дзьве гадзіны майго часу зьеў, пакуль сьціхаміруўся.

— Мо ты будзеш больш абачны ў сваіх выразах? — сьцюдзёна сказала Ванда.

Ковель засьмяяўся йзноў.

— Урэшце ня вытрывала, загаварыла. Табе не падабаецца мая гаворка? Што зробіш. Дай веры, я ўважаўся на цябе, і каб ня ты, пэўна ўжыў бы мацнейшых выразаў. Але дармо. Цяпер няма часу: да сьвятанку я мушу быць ізноў у лесе.

Неспадзеўкі ён узяў яе й павярнуў тварам да вакна. Тады паклаў абедзьве свае рукі на ейныя плечы й глядзеў проста ў твар. Але Ванда ўжо зусім апанавала сабою: спакойна й сьцюдзёна глядзела яна на яго. Ён стаяў так блізка ад яе, што, калі гаварыў, яна адчувала цяплыню ягонага подыху на сваім твары.

— Слухай, Ванда,— казаў Ковель,— слухай уважліва. Зразумей, што ад таго, што я даручу табе, будзе залежаць жыцьцё шмат каго з тых, хто табе дарагі. Я хацеў зрабіць гэта сам, але ня выпала. Бачыш? — паказаў ён на нямецкую форму,— нат узьдзябурыў на сябе маскарадныя ўборы беларускіх батальёнаў, але да Сяргея не дабіўся. Слухай. Сёньня, як толькі разьвіднее, ідзі да Сяргея. Ніводная душа, апрача Сяргея, не павінна ведаць аб тым, што я быў тут.

— Да якога Сяргея? — пыталася Ванда.

— Да Сяргея Малахі, камандзера батальёну. І скажы яму, што я буду чакаць яго там, дзе ўмоўлена; што за Нёманам хлопцам няма небясьпекі, што дзяўчына а трэйцяй пасьпела ўсё перадаць у парадку. Скажы таксама, каб ён ня думаў, што Пецькавы партызаны забілі яе праз гэта. Яны нічога ня ведаюць. Яны забілі яе праз памылку.

У Ванды зайшлося сэрца й ад жаху захаланелі ногі.

— Ты кажаш, а трэцяй гадзіне?.. Забілі дзяўчыну?.. Хто яна?..

— Тамара Міцкевічанка.

Ванда пахіснулася. Каб яна не паваліласся, Ковель ашчапіў яе сваёю рукою. Аглушаная, аслабеўшая, яна даверліва абаперлася на яго. Больш ня чула яна яго ні чужым, ні варожым, толькі страшны боль за Тамару паліў сэрца.

— Сева,— плачучы, казала яна,— мо ты памыляешся? Мо гэта не Тамара. Яна ж учора яшчэ а першай у гэтым пакоі была, у белай сукенцы на гэтай канапе сядзела, вясёлая, шчасьлівая.

— Не, не памыляюся, Ванда,— ціха й сумна казаў ён.— Сам забітай бачыў. Сярод хаты ў крыві разам з усёй сваёй раднёю ляжала. Сукенка белая, можа, тая самая, у якой тутака была, у крыві, рука за сьпіну закручана. Пецькавы партызаны кажуць, праз памылку... Шукалі яны солтыса Аляхновіча забіць. Міцкевічава хата на сяле канцавая. Пад вечар зайшліся партызаны да іх на двор. Там бабку напаткалі, папыталіся, дзе ў сяле Аляхновічы жывуць. А бабка й кажа ім, што яны й ёсьць Аляхновічы. Некалі Міцкевіч да ейнае дачкі ў прымы прыстаў, калі стары Аляхновіч памёр. Дык іх суседзі Аляхновічамі й звалі. Калі Аляхновічы, дык Пецькавы хлапцы доўга ня цацкаліся: усіх выразалі. А потым кажуць: «Праз памылку, солтыса шукалі».

**(Працяг будзе).**

## ● Навіны культуры

### НІЯК НЕ ПАДЗЕЛЯЦЬ МІЦКЕВІЧА

*У панядзелак у польскай кнігарні ў Парыжы на вул. Сэн-Жэрмэн адбылася прэзэнтацыя французскага перакладу «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча. Яна зрабілася падзеяй, бо гэта першы вершаваны пераклак на заходнеэўрапейскую мову міцкевічавай пазмы. Дагэтуль выходзілі адно празаічныя пераклады. Прадмову да кнігі напісаў Нобэльскі ляўрэат сп. Ч. Мілаш.*

*Летувіскі пасол у Францыі сп. А. Балакаускас зазначыў, што хоць Міцкевіч і быў польскім паэтам, але ж Радзімай сваёй называў Летуву, пра што сьведчыць і ягоны выбітны твор. Спадар пасол сказаў гэтае глупства, захоўваючы ў твары поўную паважнасьць. Што зробіш, калі дагэтуль ня ўсе ведаюць якую Літву меў на ўвазе наш славуты зямляк. Што ж, можна Беларусь і не заўважыць... Сітуацыя, як у Крылоўскай байцы пра Моську. Ня варта зважаць на неадукаваных людзей.*

*Як вядома, першае выданьне «Пана Тадэвуша» зьявілася ў 1834 годзе ў Парыжы коштам А. Ялавіцкага. Тыражом 3 тысячы паасобнікаў двухтомнік быў адбіты ў друкарні А. Пінара на набярэжнай Вальтэра, дом 15. Кніга разыходзілася кепска і нават за чатыры гады ўсяго тыражу так і не раскупілі. Апроч іншага польскаму чытачу не падабаўся наш, беларускі варыянт польскае мовы. А. Міцкевіч — наш чалавек. Толькі клопату нам нарабіў з гэтай Літвой...*

**В. КУР.**

СЯРГЕЙ АСТРАВЕЦ

# ЛЕКЦЫЯ АБ КАТАЛЁНСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**Апавяданьне**

Пагасла сьвятло.

На нядаўнія Каляды, якія ў нас адзначаюцца двойчы, у хаце папалілі ўсе сьвечкі, а іншых яшчэ не прыдбалі.

За дзьвярыма ўзьнікла гамана й неўзабаве сьціхла. Суседзі пераканаліся, напэўна, што цемра ў кватэрах запануе надоўга. Я адшмаргнуў на кухонным вакне фіранкі, запаліў фаерку і запарыў кавы.

Патаемная вячэра. Ня йнакш.

У мяне быў госьць, запрошаны аднак гэтак недарэчы. Але раней ён ня мог адгукнуцца на маю прапанову прысьвяціць адвячорак літаратурнай гутарцы за кубкам чорнага напою. Не я адзін жадаў бачыць яго ў сябе.

Мы пасядзелі ў няёмкасьці і пагадзіліся на тым, каб апрануцца ды пайсьці на станцыю пеша. Часу яшчэ заставалася даволі. Мой шаноўны госьць вяртаўся да сябе ў Беласток. Рэчы ўжо былі на месцы, у багажні. Нават зважаючы на мытны дагляд ды ўсякую іншую важданіну, якую мусішператрываць перад ад 'ездам за мяжу, нам можна было асабліва не сьпяшацца...

Зіма надарылася таголета цёплай як ніколі датуль. За ўвесь яе час сьнегу ня бачылі бадай зусім. Хто-ніхто яшчэ ўздыхаў са шкадобаю, марачы аб лютых маразах і шчырай зіме. Ды марна. Мы зь беластоцкім панам чуліся ёмка нават ля ёдкай чорнай ракі, што дыхала, жыла ў нас у нагах, каля вымураванага берагу.

«Сэквана».*

Ён памаўчаў. «Рэкі ў гарадах мне заўжды нагадваюць яе».

«Няма толькі букіністаў з кніжкамі».

Ён не адказаў.

Мне болей не было чаго дадаць. Успомніўся толькі недарэчы пачатковы радок зь верша «Парыж ня бачыў я ніколі».

Ён прызнаўся, што яму пашанцавала праслухаць курс лекцый у Сарбоне. Аб эўрапэйскіх літаратурах. Натуральна, аб заходніх.

Зьнянацку ён зрабіў крок набок і стаў спускацца да вады, намацваючы падэшвамі прыступкі.

У адным з чоўнаў нехта сядзеў.

«Вечар добры, пане Хароне».

«Карачун** мая фамілья, каб вы зналі». Адказаў незнаёмец на трасянцы.

«На той бераг, можна?» Мяне пытаньне амаль не зьдзівіла, толькі хвілёва пацешыла абыякавая гатовасьць, зь якой гаспадар чоўна неспадзявана згадзіўся з крыху шалёнай прапановай.

Мы, трошкі прыгінаючыся, спусьціліся ў спод. Вясьляр, пакорпаўшыся ў кішэнях, адамкнуў замок, бразнуўшы ланцугом.

Вызваліўшыся ад кайданаў, човен трапіў да зьняволі валадарнай імклівай плыні.

«Крывіч. Антон».

«Ён хіба вучыўся тамака...»

«Не зусім так. Ён цікавіўся каталёнскай літаратурай. Мне



спатыкалася ягоная нататка ў адным міжваенным выданьні».

«Каталёнія... гэта ў Іспаніі».

«Край з тысячагадовай гісторыяй. Як і наш. Шляхі народаў часам супадаюць, як пры пільным вывучэньні гэаграфічнага землярысу — сілуэты адлеглых паміж сабой дзяржаў і дзяржавак».

«Мова будзе аб гісторыі?».

«Не зусім. Колькі заўваг пра гісторыю, адбітую ў прыгожым пісьменстве».

Увесь гэты час ён размаўляў моваю польскіх беларусаў, г. зн. засьмечанай палянізмамі. Цяжкаватай для зразуменьня яшчэ і праз сваё польскае гучаньне.

Я ня ставіў сабе за мэту перадаць яе асаблівасьці, пішучы гэтыя радкі. Па-першае, каб пісаць нейкай моваю, трэба ёю жыць. А да таго ж; ад часу размовы мінуў блізу год і з памяці маёй сьцерліся фарбы словаў. Утрываліліся адно зьмест гаворанага і самі падзеі, згадзіцеся, крыху небудзённыя.

«Яны страцілі незалежнасьць у пятнаццатым стагодзьдзі. Як і чэхі.

Только ў 1859 годзе былі адноўлены гэтак званыя «Кветкавыя гульні». Паэтычныя спаборніцтвы. Кожны паэта чытаў тры свае вершы. Пра Бацькаўшчыну, веру і каханьне».

Яму прыйшлося перапыніцца. Човен шкрабнуў сподам камяні. Карму пачало хіліць плыньню, але човен ужо зачапіў бераг. Мы, не згаворваючыся, скочылі вонкі. Вузкая стужка сярэдрэчнага астраўца, загрувашчанага выкінутым вадой каменьнем, нагадвала крушню.

Наш вясьляр гучна высмаркаўся і запаліў папяросу. Калі ён палез па пачак у кішэнь, мне на хвілю зрабілася ніякавата. Потым я моўчкі пасьмяяўся зь сябе.

Дагэтуль, па дарозе сюды, госьць распавядаў пра жыцьцё ў Польшчы. Пра імклівы рост цэнаў, курс валют у адносінах да «златувкі». Я ведаў, што ён езьдзіў па навуку коштам эміграцкага Фонду Льва Сапегі. Мне найболей цікава было б даведацца менавіта пра гэта. Але ён апавядаў аб літаратуры далёкага народу. Я не наважваўся яго перарываць.

«Занядбаную мову пачалі адкрываць наноў.

Нядошлая іспанская дзяржава гібела ў нэндзе, бачачы толькі ў снах колішнюю сваю магутнасьць.

Каталёнскі Рэнэсанс выглядаў на падобным тле досыць кашчунным. Штосьці накшталт балю на руінах. Вайна за калёніі прайграна. Тысячы забітых маладзёнаў, мільёны змарнаваных на порах пэсэтаў.

Ня кожны меў сьмеласьць тады, каб прызнацца публічна, што спавядае ідэі адраджэнскага руху. Імпэрыя хворая, а ўскрайна гэтым часам сьпявае свае жыцьцялюбныя, аптымістычныя гімны!»

Каменюкаваты лапік. Прыхамаць струменяў, якія, падзяляючыся ў гэтым месцы надвая, расьцяжарваліся ад прынесенага здалёк друзу, каб мкнуць далей навыперадкі.

Аснач*** сядзеў на кукішках і моўчкі паліў. А замежны госьць зьмерваў няроўнымі крокамі паверхню астраўца, пераступаючы цераз камлыгі. Апавядаў нетаропка, з паўзамі, зваротамі да мяне. Апошнія мелі збольшага рытарычны лад, таму мне даводзілася адно хітаць галавам на знак згоды. У ягоных паводзінах угадвалася некаторая сьхільнасьць да афэктацыі. А ўсё разам нагадвала сцэнічны маналёг пры ўдзеле двох бязмоўных статыстаў.

Уражаньне мацавалі два шэрагі дэкарацыяў, паміж якіх у цясьніне праточаным рэчышчам плыла рака. Калі стаяць супраць плыні, левабоч на грудах угадваліся рэшткі выявы са старасьвецкае гравюры з лацінскім надпісам. На процілеглым баку краявід быў мёртвым. Змрочнасьці яму надавалі паралелаграмы збудаваньняў з часоў сямігодкі.

Тым часам ён пачаў гаварыць аб моўным унармаваньні. Словы яго падмацоўваліся ўжо знаёмымі мне прыкладамі. «Вялікаму Адаму польская прэса рабіла закіды за ягоныя беларусізмы». «Сваяк французкага паэта «польскага» паходжаньня ваяваў с рэдакцыяй «Нашай Нівы» за ўласны погляд на правапіс». Нарэшце, апошні перадваенны год. У Пецярбурзе, нікому яшчэ не вядомым студэнтам унівэрсітэту прачытаны грунтоўны даклад аб будучай Першай граматыцы беларусаў. А ў далёкае Барсэлёне выйшлі з друку славутыя «Арфаграфічныя нормы». Самавітая праца аб упарадкаваньні лексікі, сінтаксіса ды арфаграфіі каталёнскай мовы.

Пазьней яшчэ адна перамога: адкрыцьцё інстытута нацыянальных дасьледаваньняў з навуковай бібліятэкай пры ім. Соткі а соткі тамоў і ў іх — працы па гісторыі, мове, літаратуры...

Вада навокал рабацела. Цемра рабіла бераг зусім далёкім. Мы ізноў плылі, падпарадкоўваючыся кірунку плыні.

Насоўваўся вялізны віядук моста. Моўчкі, не без нутранога напружаньня, мы мінулі яго і неўзабаве прысталі да берагу.

Выбраўшыся на зямлю і зрабіўшы каля двух дзясяткаў крокаў наперад, я натрапіў на нізкі аселы мураваны паркан.

«Яўрэйскія магілы». Упершыню ззаду прамовіў наш маўчун-лодачнік, прамовіў нейк гугнява, бо трымаў у зубах цыгарку.

Я гэтага месца ня ведаў і ніколі дагэтуль тут ня быў.

Да мяне падыйшоў госьць. «Той чалавек, пра якога мы ўзгадвалі, паехаў у 19-м годзе ў Парыж з адказнай урадавай місіяй. Там ён пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай. Ужо пазьней, пасьля лягераў, яна пасялілася ў вашым горадзе. Жыла самотна, і гэтак жа памёрла.

Яна пахавана на гэтых могілках. Але я прыходзіў сюды ўчора ўдзень і магілы не знайшоў».

Дзядзька прыняў грошы са словам «дзякуем».

Узьняўшыся наверх, мы спынілі на мосьце прыватную таксоўку. Ён ужо сьпяшаўся. На разьвітаньне сказаў штосьці пра тое, што ў дзень свайго патрона Сан-Жордзі каталёнцы дораць адзін аднаму кнігі. Зразумела, на каталёнскай мове.

Ён ня мог ведаць наперад, што не ад 'едзе начным цягнікам. Яго затрымалі ў мытні, каб скласьці пратакол за спробу перавезьці цераз мяжу валізу кніжак, якія, паводле трапнай заўвагі службоўца, «в наших книжных магазинах нікто ні пакупает».

Лямпачка, на радасьць, запалілася. Вярнуўшыся дахаты, я прайшоў у свой пакой і пачаў вымаць з шафы кнігі. Пагартаўшы некаторыя зь іх, высьветліў для сябе колькі цікавых рэчаў.

Перадусім, мяне ўразіла, што слова «каталіцтва» грэцкага, а не лацінскага паходжаньня, як я заўсёды думаў. Атрымлівалася, што назва аднакарэннага зь ім Краю літаральна азначае «сусьвет». Мой край — мой сусьвет. Вось які народ каталёнцы!

Я стаў праглядаць тамок іспанскай гісторыі і спыніўся на 1939 годзе. Страта Каталёніяй, пасьля грамадзянскай вайны, сваёй нядоўгай аўтаноміі. Большасьць літаратараў апынаюцца ў выгнаньні. У далечыні ад родных берагоў. І шмат хто да апошніх сваіх дзён. Іхнія магілы засталіся на чужыне.

Але яны здолелі захаваць літаратуру, мову, калі на Бацькаўшчыне тыя трапілі пад забарону. Гэта былі безумоўна сапраўдныя пісьменьнікі.

Ніхто зь іх ня стаў чакаць падачак. Леккавых аўто, ордэнаў з баньцікамі...

Мне й дагэтуль вось незразумела, чаму тады, у той самы год усе, хто быў, засталіся ў Вільні. Крывіч, якога яны зьняважліва абзывалі ў сваіх газэтках «нацдэмам», выйшаў сустракаць іх з кветкамі. Апошні дзень, калі яго бачылі.

Праўда, адзінкам зноў пашэньціла. Ці не самы таленавіты быў наогул абласканы і спраўна пісаў вершыкі пра Яго. Але да каталёнскае літаратуры гэта ўжо ня мае аніякага дачыненьня.

* Гэтак па-польску гучыць назва ракі Сены.

** Бог сьмерці ў паганскіх беларусаў.

*** Тут: лодачнік.

## ДАЛЯР ЗА 2.30

*Днямі я быў сьведкам таго, як адна кабета ледзьве не накупляла даляраў усяго па 2 рублі 30 капеек... Рэч у тым, што ў гарадзенскія газэтныя кіёскі трапілі зь Летувы кішэнныя каляндарыкі з даляравай выявай. Іх хуценька раскупілі. Што ж датычыць сапраўднага амэрыканскага даляра, дык у Польшчы ён каштуе болей 14 тысяч злотых, у Расеі — 365 рублёў. А на дзьвярах Дзяржбанку ў Горадні на гэтым тыдні вісела паперка, у якой паведамлялася, што тут вы можаце пазбыцца лішніх даляраў, прадаўшы іх банку па 300 рублёў. А ангельскі фунт у нас цяпер каштуе сама меней 490 рублёў.*

**А. С.**

## З КРЫМІНАЛЬНАЙ ХРОНІКІ

1. 17 красавіка ў адзьдзяленьне ўнутраных спраў Гарадзенскага райвыканкама зьвярнулася жыхарка Горадні, якая знаходзіцца зараз у дэкрэтным адпачынку, з заявай, што яе муж, лясьнічы Гарадзенскага лясьніцтва, 15 кастрычніка ад´ехаў на службовай машыне на працу і дамоў да гэтага часу не вярнуўся.

Таго ж 17 кастрычніка супрацоўнікамі міліцыі і лясьнічымі вяліся пошукі ў лесе. Каля вёскі Зялёнай Гарадзенскага раёна на глыбіні 1,5 мэтра быў знойдзены закопаным і абліты бэнзінам мярцьвяк, па прыкметах падобны да гр. Ж. Аўтамашыны побач ня было.

2. Увечары 18 кастрычніка а 19 гадзіне на вул. Гарнавых у Горадні двума супрацоўнікамі патрульна-паставой службы быў затрыманы аўтамабіль ВАЗ-2103, і пры даглядзе ў вадзіцеля быў выкрыты пісталет невядомай маркі, адрэз карабіна і чорныя маскі.

Пяцёх злачынцаў, пры спробе іх затрымаць, зьбілі міліцыянтаў і зьніклі з месца здарэньня.

# ЗАЛАТАЯ ВОСЕНЬ

### ТРЫ ПРАГУЛЯНКІ ПА СТАРЫХ ВУЛІЧКАХ

I.

Чалавек па сваёй прыродзе самотны. Гэта нармальна. Калі яму вышэй усяго патрэбныя начальства ці сваякі, значыць, нешта ня так. А самотны чалавек мае час. І езьдзіць, і ходзіць... Проста глядзіць на гэты сьвет.

Пасьля камуністаў гэтае места зрабілася мала ня пупам зямлі. Вільню забралі, Менск ня мае нічога па-за ваеннай прамысловасьцю, тлумам ды брудам, цэны там ляцяць на тры тыдні раней, чым тут, таму вандроўкі і прагулянкі з усяе Беларусі вяртаюцца пацыху ў сваё места і яго навакольле.

У месьце з-пад зямлі выпаўзае гісторыя. Прыехаў дэпутат Алег Трусаў — і раскапаў падмуркі па ўзарваным у 60-я Фарным Касьцёле. Кажа, добрыя такія падмуркі, бяры ды стаў новыя сьцены, вытрымаюць. Пабеглі па месцу размовы: «косьцюл гарнізоновы», «косьцюл гарнізоновы»... «А мне отец говорил, что перед войной...». А ўвогуле, трэба перадаць гэты храм вуніятам, бо яны нічога ня маюць, а яны ж беларусы, а Вітаўт менавіта тут аглядаў сваю армію перад паходам на Грунвальд...».

Кругом раскопаў — зьдзічэлы бэз. Нейкія дзікія гарадзкія дрэвы. Пустая «дошка гонару»... Правільна, ганарыцца няма чым.

Між тым, гісторыкі пішуць, што пасьля маскоўскай вайны 1654—67 гадоў гэты касьцёл,— а «фарны» азначае ўсяго толькі «мясцовы», «месцкі», «агульнага карыстаньня»,— гадоў сто стаяў пусты ды развальваўся. Проста места абязьлюдзела і было ня ў стане паправіць будыніну. Калі папа ў XVIII ст. разагнаў запрыткіх езуітаў, кароль Станіслаў Панятоўскі перадаў месту іх езуіцкі касьцёл, які аж да нашых дзён называны Фарным, а тую развалюху кароль аддаў... праваслаўным! Але што нам з таго...

Іду далей. Базыльянскія муры насупраць Новага Замку. Доўгі час пры ўладах каралеўскіх, імпэратарскіх, польскіх і савецкіх — таксама развалюха. Потым зрабілі Музэй Рэлігіі. Першым дырэктарам быў Аляксей Карпюк. Атрымаў ён ад уладаў грошы на абнову — палову на рэлігію ды палову на атэізм. За «рэлігійныя» грошы «незрелый коммунист» Карпюк накупіў усялякага дабра й зрабіў музэй старой беларускай культуры, а за «атэістычныя» купіў... адпрацаваўшы сваё касьмічны спадарожнік сэрыі «Космас», які цяпер стаіць насупраць кватэры нябожчыка Карпюка каля кіно «Космас»! Больш вядомы гэты спадарожнік у месцы як «кофемолка»... Так паўсталі Базыльянскія муры, дзе ляжаць і каталіцкія, і вуніяцкія, і праваслаўныя кнігі ды розныя скарбы.

Але тут аказалася, што сьвет зноў трэба «абнавіць». І вось прэтэндуюць на той музэй без усялякага посьпеху вуніяты і з паступовым посьпехам праваслаўныя. Вельмі духоўныя асобы... Канешне, гэта беластачане Латышонак зь Яновічам могуць пісаць, што вуніяцкі Базыльянскі Закон ад першае трэці XVIII ст спэцыяльным загадам караля быў пераведзены на... лацінскую ды польскую мовы! І што ад тае пары ня быў ён «нацыянальным» ды «беларускім», але сапраўды гнуў лінію на палянізацыю, ды так пасьпяхова, што праз сто гадоў кляты паўсюдна біскуп Сямашка ня бачыў іншага выйсьця, чым падацца назад у праваслаўе! Але што нам з таго...

Гэтаксама, як з таго, што цьвярскія праваслаўныя ці мітрапаліт Філарэт у сэнсе Варфаламееў зусім ня маюць да «базыльянак» аніякага дачыненьня. Нават калі пад мурамі «базыльянак» і ёсьць падмуркі царквы часоў Вітаўта ці Данііла, то мітрапаліт тады быў не маскоўскі, а кіеўскі — а потым галіцкі ды наваградзкі. Уф, галава ідзе кругам...

Але чалавек — сваё, а гісторыя — сваё. А ўвогуле гарадзенскі гонар за сівую даўніну — гэта гонар жабрака на руінах. А ганарыцца жабрак тым, што навокал увогуле чыстае поле і «агні завадзкіх карпусоў»...

Даўно ўсё зьмянілася.
Места самому сабе
  пакінутае даўно
  працоўным людам і ўладай.
Над прыватнай кавярняй
  самотны алень раве,
але Губэрт Сьвяты
не прыходзіць з добрай парадай.
А краса ўсяе Пушчы Літоўскае
  жыць жабраком ня звык!
А няма Горадні старой,
  а тое, што засталося—
чужое даўно, савецкае;
  вырвалі месцу язык,
і не пад Божым сярпом
  лапоча яго калосьсе!
А серп самазванцаў тых,
  які панаваў даўно,
сьсекся, ступіўся таксама,
  зьіржавеў, кінуты ў зломы.
Тут, як па ўсёй Беларусі—
  можна ўбачыць адно кіно
ды зрэдку кіўне са зьдзекам
  былы змагар і знаёмы.

II.

За трыста крокаў ад «базыльянак» — жыдоўская сінагога з працеклым дахам. Гэтая пасьпеха згніць толькі ад 1941-га, цяпер яе дабіваюць... мастацкія майстэрні! Коля Селятыцкі цісьне з гліны слаўных аўганцаў, якіх потым сувэрэнны міністр абароны сп. Казлоўскі асабіста разьмяркоўвае па гарадзенскіх скрыжаваньнях.

Лёс народу — гэта і лёс дабра. Няма габрэяў — здох гэты некалі багаты раён, вядомы пры бальшавіцкіх як «улица Кошевого». Дарэчы, Кашавы, ён што, таксама габрэй?! Прозьвішча ж нібыта казацкае... Няма таго, што было. Ну, адкрылі дошку там, дзе было гэтта... Ну, прыехаў з Амэрыкі сп. Зандман, які дзіцём тут выжыў нейкім цудам... Ну, папрасіў гэтую сінагогу яму прадаць, каб прывесьці яе ў парадак, памяць нейкую зрабіць, чым толькі зьбянтэжыў нашых начальнікаў, таму што такога яшчэ ня было... Ну і што? Толькі попел і дым, рака і неба...

Мы дзічэем. Продкі ўбачылі б — паперакручваліся б у трунах. На якія толькі цуды сягоньня не нагледзішся, чаго й каго толькі ня ўбачыш! Але сінагога засталася за плячыма, вось ужо рэстаран «Зубр», каліс папулярна й пяшчотна званы «скацінай». А тут другі час, і другі народ.

Па самвыдаце й
        Санкт-Пецярбурзе
  надоўга засеў хмель
у галовах наіўных жыдкоў
  з правінцыйнай Гародні—
  нават па пляшку йдуць,
  як другія йшлі пад шрапнэль!
Сьмешна гэта і сумна.
  Але ў любой падваротні,
у кампаніі кожнай апавядаюць
                    яны
  патаемна ды ціха
пра Камітэт Бясьпекі...
  Нейкія дзіўныя, хваравітыя
                    сны
адабралі ім розум,
  кінулі без апекі.
Няма ўжо краю такога,
  што іх тады хваляваў!
Няма на кухні размоваў,
  дзе адны свае са сваімі!
Нічыёй ня любяць Айчыны—
  і Бог ім сваю адабраў...
І што цяпер наракаюць,
  што сталі кругом чужымі?!
І што за прага такая
  ізноў хіхікаць далей?
І што за такая звычка
  быць нікім
  да іх прыпяклася?!...
... над старым гарадзенскі гэтта
  жоўты дождж, як алей.
Цішыня па сапраўдных габрэях
  адна засталася.

Гэтыя радкі, калі захоча, можа забраць да сябе пэўны тутэйшы пан, колішні баламут і дысыдэнт, які летам 1989-га на маю мужыцкую мову зарэагаваў так:

— Придуриваться можешь со своими дружками, а со мной говори нормально! Суетитесь вы все, суетитесь...

Чым далей беглі падзеі, тым лагаднейшы да «хамскай мовы» рабіўся той фраер, набіваўся ў сябрукі, выпытваў... А запалу хапіла толькі на тое, каб ціскануць у «ведомственной газете» апавястуху з прэтэнзіяй на дэтэктыў, дзе я выведзены пад крыптанімам «Алесь Сапожков»...

— О, мама міа! — як кажуць у кібуцах паміж Тэль-Авівам і Хайфай. Калі ўжо Алесь, то ясная справа, што Чобат, Пачабут ці Чабатарэвіч! А калі ўжо «Сапожков», то ніякі не Алесь, а самы натуральны Ваня! «Алесь Сапожков» — гэта яшчэ сьмешней, чым Тацьцяна Сігізмундаўна Шарафутдзінава, гэткая савецкая крэсавячка «замужем по любви». Цікава, а хто будуць яе дзеці? Няўжо зноў палякі?!

Але што ж ты зробіш! Нічога ня зробіш...

III.

Ад «Зубра» і піва рушым назад у цэнтр. На вуліцы Савецкай — «независимые» прафсаюзы, валютная й некалькі камэрцыйных крамаў, адна незалежная і адна нацыянальная рэдакцыі, унівэрмаг, дзе падаюць выключна замежную выпіўку — азэрбайджанскую ды польскую.

Сумна пазірае на ўсё гэта галава маршала Сакалоўскага. Маршала шкада. Ці мала ён нагледзеўся у свой час на задніцы БНФ-аўскіх пікэтчыкаў, якія акурат перад яго носам, як і пад носам тагачаснага гарвыканкаму, з плякатамі ды мегафонамі «разваливали такую страну»... Добра, што пасьпелі замяніць на Сакалоўскага колішняга Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна — таму б увогуле нос адбілі, як бандыты зь Іўя! Сумна, пані й панове. «Гродно — это город контрастов...». І анічога больш, як пісаў адзін папулярны некалі дзядзька з Масквы Андрэй Вазьнясенскі. Дарэчы — габрэй...

Перад аблвыканкамам на вуліцы Ажэшкі, званым па-свойску «ар-хатай», мяне заўсёды ахоплівае жах. Гэта з тых часоў, калі неяк у Менску наслухаўся дэпутата сп. Голубева: аказваецца, вабласцей больш ня будзе, бо яны не патрэбныя... І вось ідзеш міма і думаеш: калі ўжо гаркам



з абкамам ледзь засялілі, ну, таму што шмат каму хацелася, то што ўжо будзе, як сюды дарвуцца! «Вежа бабілёнька, круль Ян Собескі под Веднем...».

Ну, на Леніна можна не азірацца. «Не те времена...» А каляровым ломам шпікульнуць усё неяк рукі не даходзяць праз ляноту й распусту інтэлігенцкую. Няхай цяпер ён на мяне паглядзіць... Гэта як у тым анэкдоце. «Ребята,— кажа пані ў тралейбусе,— вы бы хоць место бабушке уступили! А ещё пионеры!». «Не-а,— кажуць.— Хватит уже! Вышли мы из пионеров...» Дарэчы, дзеяч Дуб, кажа: ціскані пра нас, бо я абараняю правы лесьбіянак. «Вся Москва» сьмяялася: «Ой, вы знаете, в Гродно председатель лесбиянок — мужчина!...». Ой, ну іх усіх...

Стары дабіты парк аточаны кіёскамі, па-сучаснаму, шапікамі, з усялякім хламам: рынак... Падмятаць стала эканамічна нявыгадна: рынак. Стаіць пакуль што жывы тэатр Тызэнгаўза, у якім месьціцца ляльчны тэатр, дзе, падбіўшы Беласток і Воршу, «бацька бруднага беларускага блюзу» Віктар Шалкевіч спрабуе нешта зрабіць. Адзін чалавек...

Малюнкі старога парка.
  Гуляюць сабакі і дзеці.
Мужыкі ў даміно малоцяць.
  Пралятаюць эпоха і ўлада.
У палацыку гаупттвахта.
  Салдацік зьмятае сьмецьце.
У старым тэатры «Тутэйшыя».
  Пух тапаліў, як брудная вата...
Парк паміраe ціха.
  Ні прасьцей, ні страшней
                за людзей.
Людзі з чэргаў да чэргаў
  праз парк бягом прабягаюць.
Жыцьцё такое кароткае...
  А паркам — усё ж карацей.
Вось і бягуць тутэйшыя,
  якія нічога ня маюць.

Кірха. Архіў у кірсе, вабласная міліцыя ды фабрыка «Дынама» побач — як раз на касьцях, на месцы колішніх лютэранскіх ды кальвінісцкіх могілак. Ладна, пайшлі...

Вось і вакзал. На месцы... А перастань ты ўжо, надакучыла! «Даўно ўсё зьмянілася...». Як сказана ў клясыка, «яшчэ вярсты тры — і Сьцёпка выйшаў на чыгунку, дзе ізалятары на слупах сядзяць беленькімі галубкамі!». Трэба дзе паехаць — да Друскенікаў ці толькі да Парэчча. Выбраць там самае-самае НЕгрыбное места, дзе няма людзей, якія ўваходзяць у рынак, як п´яны дурань у ледзяную ваду.

Паглядзець на неба і памаўчаць...

**Алесь ЧОБАТ,**
**1992, верасень.**

## Людзкія сустрэчы

### У АМЭРЫЦЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Памятаю, ў свае студэнцкія гады найбольш захапляўся беларускай мовай, паколькі школу давялося скончаць расейскую. Мой сябра па інтэрнацкім пакоі ўвесь час аддаваў вывучэньню агнельскай мовы. Яго даўняя мара была ад´ехаць у Амэрыку, дзе жыў яго дзядзька, аднак, імкненьне да розных моваў не перашкаджала нам сябраваць і разумець адзін аднаго, нягледзячы на тое, што размаўлялі мы паміж сабой усё роўна па-расейску.

Пасьля сканчэньня унівэрсітэта я застаўся на Беларусі, а сябру праз нейкі час ўдалося-такі ад´ехаць у Амэрыку. Так мы больш і не сустракаліся. Аднак, надалося неяк выпадкова на вуліцы напаткаць яго старэйшага брата. Вось што ён мне распавёў. Алесь ужо чацьвёрты год жыве ў штатах і дамоў не зьбіраецца, зрэдку тэлефануе, а гаворыць заўсёды па-беларуску. Сталася так, што найбольш спрыяльныя ўмовы для жыцьця ў чужой краіне ён адчуў у калёніі беларусаў, якія там жывуць ужо здаўна. Зараз і мова, і культура, якой тут ня здолеў пазнаць, сталі самым родным і дарагім на чужыне. Ніяк не мог ўявіць я Алеся сапраўдным беларусам, ды яшчэ з мовай нашай. Але неяк у сярэдзіне лета атрымліваю прыгожы канвэрт па пошце і вачам ня веру — з Амэрыкі. А ў ім прыгожая картка з віншаваньнямі да Дня незалежнасьці Беларусі і знаёмы подпіс на ёй — Алесь.

### ПРАБЛЕМЫ «БІЗНЭСМЭНА»

Вядома ж, мы не скончалі эканамічных факультэтаў. Ды і хто тады мог падумаць, што прыйдзем да нейкага там рынку? І што зараз рабіць з сваім гуманітарным дыплёмам, на жыцьцё і тое не заробіш... Аднак, і сярод гуманітарыяў былі і ёсьць хлопцы здольныя. Амаль ніхто зь іх па спэцыяльнасьці даўно ўжо не працуе, а новую адукацыю атрымліваюць самавукам.

Распавядаў неяк інстытуцкі знаёмы, якія несправядлівыя законы ў СНД у адносінах да маладых бізнэсмэнаў. А сам ён займаецца тым, што возіць у Маскву харчы, часьцей сыр ды масла, а адтуль імпартовыя цыгарэты. Дык вось зь нядаўніх часоў у цягніках праверкі наладзілі. Калі вязеш тавар у Маскву і цябе затрымала беларуская міліцыя, складаюць пратакол і высаджваюць на адным з прыпынкаў, дзе праз суд, усё, як і належыць, па закону канфіскуюць.

У Маскве на вакзале іншая сістэма. Калі выходзіш з мэтро, затрымліваюць рэкэціры і патрабуюць даніну таварамі або грашыма. Нікуды ні падзенешся, даводзіцца дзяліцца. Але гэта яшчэ ня ўсё. Перад самым цягнікам зноў запыняюць, толькі зараз ужо людзі ў міліцэйскім. Яны, дарэчы не складаюць пратаколаў за тое, што рабуюць матухну-Расею, а па-брацку таксама прапаноўваюць дзяліцца або таварам, або грашыма. Так і даводзіцца беларускім «бізнэсмэнам» вяртацца дамоў з паўпустымі кайстрамі. Аднак, на маё пытаньне, ці паедзеш зноў ў тую Расею па тавар, былы сакурсьнік сьціпла адказаў: «А куды дзенешся, жыць жа трэба».

**Г. Т.**

**Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд «Бацькаўшчына».**

Наша газэта ёсьць БЕЛАРУСКАЙ ТРЫБУНАЙ, адкрытай для выказваньня розных пунктаў гледжаньня, розных аўтараў зь любых краін, гарадоў і вёсак. Меркаваньні аўтараў публікацый не заўсёды могуць супадаць зь меркаваньнем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 230023, г. Горадня, вул. Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.

**Рэдактар С. АСТРАЎЦОЎ.**
Індэкс 63124.
Выходзіць штодватыдні па пятніцах.
Фотанабор, афсэтны друк.
Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня, 230003, г. Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Тыраж 2000 асобнікаў. Замова № 4328
Нумар падпісаны да друку 22.10.1992 г. у 17.00